


*У панядзелак у Вільні пачаў работу Палітычны камітэт Парламенцкай асамблеі Рады Еўропы. Адным з галоўных на пасяджэнні стала беларускае пытанне.*



# ЕЎРОПА ВЫЗНАЧАЕЦЦА З БЕЛАРУССЮ Ў ВІЛЬНІ

## ЯНЫ НАВАТ ЗГОДНЫЯ ПРАЦАВАЦЬ З МІНСКАМ. НЕ РАЗУМЕЮЦЬ ТОЛЬКІ – ЯК?

«Што рабіць з Беларуссю?» - на гэтае пытанне ўжо не першы месяц шукаюць адказ еўрапейскія палітыкі. Пакуль што пазіцыя Еўропы заставалася неадназначнай. З аднаго боку, апошнія парламенцкія і прэзідэнцкія выбары ў Беларусі Еўропа прызнала недэмакратычнымі. З другога – не хоча, каб Беларусь надалей заставалася ў палітычнай ізаляцыі. Трэба нагадаць, што 13 студзеня 1997 года бюро Парламенцкай асамблеі Рады Еўропы прыпыніла дзеянне статусу "спецыяльнага запрошанага госця" для Беларусі ў гэтай арганізацыі ў сувязі са шматлікімі парушэннямі пры правядзенні рэферэндуму ў лістападзе 1996 года.

Абмеркаванне беларускай праблемы адбывалася за зачыненымі дзвярыма ў галоўнай зале Віленскай ратушы. З раніцы ля ратушы група мясцовых беларускіх актывістаў наладзіла пікет. Трэба адзначыць, што для Літвы гэтая размова мае асаблівае значэнне. 8 лістапада Літва пераняла старшынства ў Камітэце міністраў Рады Еўропы, стаўшы такім чынам на наступныя шэсць месяцаў своеасаблівым палітычным цэнтрам еўрапейскага кантыненту. Адной з прыярытэтных задач падчас свайго старшынства Літва лічыць вырашэнне беларускай праблемы. На думку Захада, Вільня — своеасаблівы эксперт у беларускім пытанні: мае немалы досвед так званага «крытычнага дыялогу» з суседняй краінай, пры гэтым, з аднаго боку, не прызнае нелегітымны «нацыянальны сход», з другога — падтрымлівае прагматычныя дачыненні з беларускай выканаўчай уладай.

Выніکі віленскага абмеркавання такія. Палітычны камітэт Рады Еўропы вырашыў пакуль не абмяркоўваць пытання ці вяртаць Беларусі статус «спецыяльна запрошанага госця». У адносінах з Беларуссю вырашана падтрымліваць прагматычную стратэгію адпаведна з прынцыпам «крок за крокам». У Мінск накіруецца спецыяльная дэлегацыя Палітычнага камітэта для абмеркавання магчымасці дыялогу з афіцыйным Мінскам. Умовай дыялогу павінны стаць чатыры ўмовы аб'яднанай Еўропы: пашырэнне і ўмацаванне ў Беларусі парламенцкіх паўнамоцтваў, адмова ад смяротнага пакарання, свабода сродкаў масавай інфармацыі і ўвядзенне інстытуцыі "Омбундсмэну" (гэтае нязвыклае беларускаму вуху слова азначае "ўпаўнаважанага па правах чалавека").

На думку журналістаў, дэлегацыя непазбежна будзе праводзіць кансультацыі і з прадстаўнікамі апазіцыі.

Увогуле, варта мець на ўвазе, што Палітычны камітэт не збіраўся зараз прымаць нейкі канкрэтны дакумент, звязаны з Беларуссю. Выказаныя прапановы яшчэ будуць некалькі тыдняў абмяркоўвацца ў рабочых структурах Рады Еўропы, пасля чаго ў студзені наступнага года стануць адным з пунктаў парадку дня на наступным пасяджэнні Палітычнага камітэта Рады – яно адбудзецца ў Страсбургу.

З неафіцыйных крыніц вядома, што спрэчкі па беларускім пытанні ў Вільні праходзілі вельмі горача. Беларускі дэпутат літоўскага Сейма Вацлаў Станкевіч у гутарцы з карэспандэнтам радыё "Свабода" адзначыў: "Амаль усе разумеюць, што трэба па-іншаму працаваць з Беларуссю, трэба мяняць тактыку і стратэгію ў адносінах да яе. З гэтым згаджаюцца ўсе, незразумела толькі – як?"

## ПРАПАНОВА АПАЗІЦЫІ...

Беларуская апазіцыя ўжо прадэманстравала сваю гатоўнасць пачаць размову аб вострых пытаннях палітычнага жыцця ў краіне. Пастаянныя чытачы "Рабочага" павінны памятаць: за апошні час мы некалькі разоў распавядалі, напрыклад, пра ініцыятыву Аб'яднанай грамадзянскай партыі, якую падтрымала Каардынацыйная рада дэмакратычных сіл – прапанаваць уладам перамовы. Публікавалі мы і матэрыял з "круглага стала", дзе асноўныя палітычныя партыі і грамадскія рухі (а таксама прадстаўнікі ўлады) выказвалі сваё стаўленне да такой перспектывы.

Удзельнікам Віленскага пасяджэння былі разасланыя экземпляры новага дакумента – "Пакрокавай стратэгіі для Беларусі." "Пакрокавую стратэгію" таксама распрацавала АГП і зноў падтрымала КРДС. Па сутнасці, гэты дакумент тлумачыць, як бачаць нязгодныя з палітыкай рэжыму палітыкі шляхі выйсця з крызісу. Цікава, што назва дакумента і назначаная Аб'яднанай Еўропай праграма дзеянняў у дачыненні да Беларусі вельмі падобныя; не выключана, што і ідэі беларускім уладам міжнародная супольнасць у рэшце рэшт вылучыць таксама падобныя. Ніжэй мы прапануем вытрымкі з артыкула "Конструктивный монолог", які апублікаваў днямі беларускі выпуск газеты "Известия". Размова ідзе пра асноўныя пункты «Пакрокавай стратэгіі».

*"Партии пробуют исправлять ошибки и уходят от революционной агрессивности и неконструктивных обвинений в сторону предложений о реформах. В Стратегии сформулированы пять последовательных шагов, которые смогут привести к изменению политической системы в стране. Встречное движение должно начаться с переговоров между властями и оппозицией при посредничестве Консультативно-наблюдательной группы ОБСЕ в Беларуси и европейской парламентской "тройки" и завершиться проведением президентских выборов в соответствии с демократическими стандартами. Между ними – организация выборов в местные органы власти и парламент. Кроме того, важное место в Стратегии отведено представлению в Парламентских ассамблеях ОБСЕ и Совета Европы представителям власти и оппозиции равного статуса и равных возможностей для работы, а также полноценные и полномасштабные контакты с легитимными органами местного самоуправления и парламентом. ОГП выступила также с несколькими экономическими инициативами. Правительству предложили программу экономических реформ, альтернативный проект бюджета и проект реформы бюджетно-налоговой системы.*

*Председатель ОГП Анатолий Лебедько уверен, что Александру Лукашенко придется реагировать на конструктивные предложения, хотя бы в силу изменения конъюнктуры политического рынка. Аналитики уже обозначили эти перемены, а последняя встреча Путина и Буша практически подтвердила их предположения. Атака террористов 11 сентября в Нью-Йорке фактически привела к изменению ситуации на мировой политической арене. Америка и Россия сели за стол переговоров, конфронтация между ними исчезла. Две империи решили объединиться на ниве борьбы с терроризмом. Александру Лукашенко остается только «пристегнуться» к старшему брату, так как он автоматически лишился возможности играть на поле противостояния России и США. Сейчас уже очевидно, что между Америкой и Беларусью Путин выбирает Америку, так как ему нужны инвестиции и приличный имидж. (...)*

*Начало уже положено – декларативное заявление о либерализации и демократизации прозвучало. Оппозиция достаточно оперативно подхватила брошенную президентом перчатку и выдвинула ряд конструктивных предложений по реализации сделанных президентом заявлений. Активизировались консультации по поводу предстоящих переговоров, которые проводятся в форме "круглых столов".*

*Оппозиция смогла сделать над собой усилие и повернуться на Восток. ОГП наиболее активно расширяет контакты с Россией. Первый визит в Москву партийной делегации завершился созданием совместной рабочей группы, которая должна сформулировать стратегию "правого взгляда на Союз".*

*Анатолий Лебедько утверждает, что отношение к инициативам оппозиции в России, равно как и в Европе, позитивное. Сама идея "пошаговой стратегии" появилась в Страсбурге после Парламентской ассамблеи Совета Европы. Ее рождение было связано с обсуждением контуров политики в отношении к Беларуси. Но изменение ситуации возможно при условии, что новое отношение к стране будет сформулировано всем международным сообществом. По словам Анатолия Лебедько, "пошаговая стратегия" должна стать единым документом США, России и Европы. Именно на таких условиях возможны политические реформы внутри государства, поскольку они включат реальные рычаги воздействия на белорусского президента.*

*Сейчас все ждут реакции Лукашенко на инициативы оппозиции. Партии, в свою очередь, уже продемонстрировали миру и беларусам готовность разговаривать с президентом и его представителями. "Мы готовы вести переговоры в цивилизованной форме, ведь даже с террористами, которые захватили заложников, ведут переговоры", – говорит лидер ОГП. Однако Лукашенко пока молчит. И мы слышим соло оппозиции, которая ведет конструктивный монолог".*

## ...І ЛАЯНКА Ў АДКАЗ

Днямі ўлады вуснамі Аляксандра Лукашэнкі ўсё ж выказалі сваё стаўленне да спробы адшукаць паразуменне.

На сходзе актыву Мінскай вобласці і г.Мінска беларускі лідэр прапанову пачаць размову ахарактарызаваў так: "...*Отдельные политики пытаются навязать президенту какой-то переговорный процесс*».

**Матэрыялы старонкі падрыхтаваў Кірыла МЯФОДЗЬЕЎ.**

## ПРОГРАММА ТВ — СУББОТА, 24 НОЯБРЯ

**БТ**
7:00, 9.00, 15.00, 19.00 Новости.
7:10 Сериал «Женщина в белом».
8:10 «Великие женщины века». Фильм «Софи Лорен»(США).
8:30 Існасць. Духовная программа.
9:10 «Любовь не игрушка». 1-я и 2-я серии.
11:30 Сад мечты. Передача для дачников.
11:55 Королевская охота.
12:25 Здоровье. Тележурнал.
12:50 Сериал «Ростов-папа». 2-я серия.
13.40 Док.сериал «Страны мира».
14:35 Столица.
15:15 Детективный сериал «Отряд по борьбе с мафией»(Испания). 4-я серия.
16:40 Белорусская двадцатка.
17:05 Пять чудес.
17:35 Мультфільмы.
18:15 Видеофильм «Я думал, что это никогда не произойдет со мной...»
18:35 Из достоверных источников.
19:20 «На перекрестках Европы».
20.10 «VIP» (США). 2-я серия.
21:00 Панорама.
21:50 Спорт-курьер.
22:00 Х/ф. «Только не уходи...»(Россия).
23:20 Видимо-невидимо.
0:30 Сериал «Королева мечей».

**ОРТ**
07.00, 09.00, 14.00, 17.00 Новости.
07.10 Мультсеанс: «Василиса Прекрасная».
07.25 Слово пастыря.
07.45 Зов джунглей.
08.10 «Эх, Семеновна!».
08.50 Библиомания.
09.10 Смехопанорама.
09.50 Смак.
10.10 40 лет шутя. КВН.
11.05 «Ералаш».
11.15 В мире животных.
11.55 Здоровье.
12.35 «Чтобы помнили...». Сергей Филиппов.
13.15 Сокровища Кремля.
13.30 «Все о Микки Маусе».
14.10 Фестивал «Югра 2001».
15.30 Х/ф. «Отряд особого назначения».
17.15 «Евгений Петросян приглашает...».
18.00 «Кто хочет стать миллионером?».
19.00 Последний герой.
20.00 Время.
20.35 Премьера. Что? Где? Когда? Зимние игры-2001.
21.45 Боевик «Дом у дороги».
23.55 Триллер «Вор».

**РТР**
07.00 Папа, мама, я - спортивная семья.
07.45 «Телепузики».
08.10 Золотой ключ.
08.30 Здоровье и жизнь.
09.00 Почта РТР.
09.30 Доброе утро, страна.
10.05 «Сто к одному».
10.55 Ток-шоу «Рядом с тобой».
11.50 Сериал «Тайный агент».
13.00, 19.00 Вести.
13.20 Комедия «Одиноким предоставляется общежитие».
15.00 «Том и Джерри».
15.20 Сольный концерт Лаймы Вайкуле.
17.00 Моя семья.
17.55 Аншлаг.
19.25 Зеркало.
20.00 Х/ф. «Первый рыцарь».
22.35 Фильм «Контракт со смертью».
01.05 Горячая десятка.
02.00 Прогноз погоды.

**НТВ**
05.20 Детектив «Черная вуаль».
07.00, 09.00, 11.00, 15.00, 21.00 Сегодня.
07.15 «Улица Сезам».
07.40 Мультфильм «Кентервильское привидение».
08.00 Большие родители.
08.30 Без рецепта.
09.15 Криминал.
09.50 «Женский взгляд».
10.25 Квартирный вопрос.
11.20 «Третий тайм».
13.25 Путешествия натуралиста.
14.00 Своя игра.
15.25 «Продолжение следует...».
16.25 Шоу Елены Степаненко.
17.25 Комедия «Тайное свидание».
19.00 Фильм «Пассажир 57».
21.30 Авторский цикл Александра Зиненко «Однажды в России». Фильм 6-й. «Героиновые новеллы».
22.15 Боевик «Подземка».
00.30 Цвет ночи.
01.00 Кома.

**КУЛЬТУРА**
09.10 «Чипполино». Мультфильм.
09.50 Углы манежа.
10.15 Бабушкины рецепты.
10.30 Золотой пьедестал.
11.00 Графоман.
11.25 Чудеса погоды. «Опасные игры».
11.50 «Как я воевала с гестапо». Худ.фильм. Часть 1-я.
13.30, 21.00 Новости культуры.
13.45 «Время музыки».
14.10 Мультфильм.
14.35 Кино Европы: второй Голливуд.
15.35 «Про Федота-стрельца, удалого молодца». Моноспектакль.
16.30 «Вокзал мечты».
17.00 «Майские цветы». Сериал.
17.50 «Великое закрытие». Мультфильм.
18.00 Сферы.
18.40 Игорь Ильинский. Жизнь артиста.
19.35 «Исторические концерты».
20.15 Дом актера. М.Лавровский.
21.20 Личные воспоминания о большой жизни.
21.25 «Персидские ковры». Худ.фильм.
22.50 Мультфильм.

**ТВ6**
06.35, 13.35, 00.45 Дорожный патруль.
06.50 Фильм «Подводная лодка Т-9».
08.05, 18.50 Сериал «Улицы разбитых фонарей II».
09.05 «Я знаю все!».
10.00, 14.00, 18.00 Сейчас.
10.30 «Просто звери».
11.10 Фильм «Два капитана».
13.05, 20.30 «За стеклом».
14.30 «Сеть».
15.10 «Антология преступлений».
16.05 «Дачники».
17.00 «Обратный отсчет».
20.00 «Итого».
22.00 Концерт группы «Ария».
23.55 Сериал «Первая волна III».

**СТВ**
06.00 Музыкальный канал.
07.00 «Параллели».
07.15 «В гостях у Тофика».
07.30 «Инспектор Гаджет». Мультсериал.
08.00 «Диплодоки». Мультсериал.
08.30 «Симпсоны». Мультсерия.
09.00 «Симпсоны». Мультсерия.
09.30 «Баффи». Сериал.
10.30 Триллер «Право отца».
12.50 «Экзотика».
13.05 «Перекресток».
13.30 Мелодрама «Мачеха».
15.25 «Здравствуйте, доктор».
15:40 «Кто я...».
16.00, 16.30 «Человек-паук». Мультсериал.
16.50 «Дальнобойщики». Сериал.
18.00 Худ.фильм.
19.30 «Час пик».
20.30 «Премьер-парад «Столичный».
20.55 Х/ф. «Бермудский треугольник».
23.10 «М 1». Музыкальная программа.
23.25 «Симулятор». Сериал.
00.20 Центр развлечений «Мэдисон авеню».
00.50 «Радио-точка».
00.10 «М 1». Музыкальная программа.

**ТВЦ**
06.05, 08.00 Мультфильмы.
07.05 «Отчего, почему?».
08.45 «Как вам это нравится?!».
09.15 Наш сад.
09.30 В последнюю минуту.
10.00, 13.00, 22.20 События.
10.15 Городское собрание.
11.00 Фильм-сказка «Матушка метелица».
12.20 «Мир дикой природы». Сериал.
12.50 Погода на неделю.
13.15 Денежный вопрос.
13.25 Мемуары XX века. «Убийство Кирова».
13.55 «Жюли Леско». Сериал.
15.40 Великая иллюзия.
16.20 «Антимония».
17.00 «Храбрый Пак». Мультфильм.
17.20 Путь к себе.
17.30 Полет над «Гнездом глухаря».
18.00 «Последний курьер». Сериал.
19.00 «Постскриптум».
19.50 Прогноз погоды.
19.55 «Труп моего врага». Криминальная драма.
22.35 ХОРОШО, БЫков».
22.50 Мода non-stop.
23.25 Поздний ужин.
23.35 Шире круг.
00.35 Вестерн «Крыло орла».

# Мой выхадны

## КУРЫЛКА

*Жонка кажа мужу:*
*— Купі мне машыну, паездзім, пабачым свет.*
*— Гэты ці той?*

* * *

*Званок у дзверы. Гаспадыня адчыняе і бачыць слесара-сантэхніка.*
*— Як добра, што вы прыйшлі. Мы чакаем вас ужо трэці дзень!*
*— Выходзіць, што я памыліўся. Мяне адправілі ў кватэру, дзе чакаюць ужо другі месяц.*

* * *

*— Колькі чалавек тут працуе?*
*— З брыгадзірам – дзесяць.*
*— А без брыгадзіра?*
*— А без брыгадзіра – наогул ніхто не працуе.*

* * *

*— Афіцыянт! Можна мне кавы?*
*— Што я вам доктар? Можна вам кавы, нельга вам кавы...*

* * *

*У самалёце "Аэрафлота":*
*— Есці будзеце?*
*— А які выбар?*
*— Так ці не.*

* * *

*— Пайшлі піва вып'ем, пасядзім, пагаворым...*
*— Хадзем лепш гарэлкі вып'ем – паляжым, памаўчым...*

* * *

*Раз у месяц я атрымліваю заробак. Іду да ўрача і плачу яму 100 долараў – доктар хоча жыць. Ён выпісвае мне рэцэпт, я іду ў аптэку і купляю лекі на 100 долараў – аптэкар таксама хоча жыць. Потым прыходжу да хаты і выкідваю лекі ў сметнік – я таксама хачу жыць.*

* * *

*Новы начальнік аддзела сабраў калектыў:*
*— Я ведаю, што раней палова з вас працавала, а палова гультайнічала! Дык вось, зараз усё будзе наадварот!*

* * *

*— Калі вы заўважылі прапажу свайго аўтамабіля?*
*— Учора ўвечары, калі выйшаў з рэстарана. Адчыніў дзверцу, сеў за руль, хацеў паехаць, гляджу, а машыны няма!*

* * *

*Размова паміж сцюардэсай і пасажырам арабскай знешнасці адразу пасля ўзлёту:*
*— Што вы будзеце піць? Віно? Кан'як? Віскі?*
*— Не, не! Мне зараз за руль садзіцца!*



# ІДЭЯ ГЕНРЫКА ГЕНЕЛЫ

Гэты "палац" – знаёмы мінчанам "грамадскі ратырад" (туалет), які стаіць у Цэнтральным скверы побач з Тэатрам імя Янкі Купалы. Пасля рэстаўрацыі тут узноўлена лепка. У "палацы" замянілі дах.

Будаваўся "грамадскі ратырад" у 1912-13 гг. па праекту архітэктара Генрыка Эдвардавіча Генелы. Магчыма, імя архітэктара мала хто ўспомніў бы сёння, каб не... туалет. Колькі міфаў звязана з гэтай незвычайнай прыбіральняй! Часцей за ўсё выказвалася думка, што нехта пакрыўдзіў Генрыка Эдвардавіча (магчыма, тагачасны гарадскі галава Станіслаў Хржанстоўскі), і архітэктар высмеяў свайго крыўдзіцеля тымі сродкамі, якімі валодаў: зрабіў будынак туалета зменшанай копіяй будынка яго палаца.

Вядомы наш гісторык, цудоўны знаўца Мінска Захар Шыбека не знайшоў матэрыялаў на карысць той ці іншай версіі: каго ж высмеяў Генела. Наўрад Хржанстоўскага: не было падставы, ды галава і не пацярпеў бы такого здзеку. Магчыма, крыўдзіцель увогуле жыў не ў Мінску, а ў Рызе, бо Генрык Эдвардавіч перад тым, як прыехаў у Мінск, вучыўся ў Рыжскім політэхнічным інстытуце. Але не гэта галоўнае. Галоўнае – ідэя.

А што калі пабудаваць другі "грамадскі ратырад", які б быў падобны (зменшаная копія) на будынак, які стаіць праз дарогу ад першага "ратырада"? Дзесяць гадоў таму ў гэтым "камуністычным" палацы на вуліцы Маркса размяшчаўся кіруючы апарат КПБ. Да будынка падысці баяліся, ён выклікаў страх. Гэтае пачуццё, на жаль, захавалася. Чаму б нам не пазбавіцца свайго страху праз смех?

Калі немагчыма зрабіць такі туалет у горадзе, то можна паставіць яго на сваім дачным ці прысядзібным участку. Пэўна, гэта павялічыць прыток гасцей да вас – каб пасядзець на стульчаку ў такім доміку... Трэба вучыцца, смеючыся, расквітвацца са сваім мінулым...

**Каміла ВАРГУЦЁВА.**
***Фота аўтара.***



# Беларускі каляндар

***У беларускім адраджэнні "Наша Ніва" адыграла выключную ролю самім фактам свайго існавання. Нават незалежна ад таго, што канкрэтна ў ёй друкавалася. Бо немагчыма не прызнаваць нацыю, калі яна мае свой перыядычны друк.***

***Але і змест "Нашай Нівы" быў высакаякасным. На старонках газеты друкаваліся творы Максіма Гарэцкага і Вацлава Ластоўскага, Алеся Гаруна і Каруся Каганца, Цёткі і Канстанцыі Буйло, Максіма Багдановіча і Змітрака Бядулі, Якуба Коласа і Янкі Купалы. Янка Купала, дарэчы, пэўны час быў галоўным рэдактарам "Нашай Нівы".***

## "Наша Ніва"

### 23.11.1906 г. – выйшаў першы нумар газеты

"Наша Ніва" была заснавана кіраўнікамі Беларускай Сацыялістычнай Грамады Іванам і Антонам Луцкевічамі. Першы нумар газеты выйшаў 10 (23) лістапада 1906 года, апошні –7(20) жніўня 1915 года. "Наша Ніва" выходзіла штотыднёва ў Вільні – сталіцы былога Вялікага княства Літоўскага, аднаго з беларускіх культурных цэнтраў. Газета спыніла існаванне, калі да горада наблізіўся руска-германскі фронт.

Беларуская газета стала тым ядром, што гуртавала вакол сябе маладую беларускую інтэлігенцыю. Гэта былі людзі розных літаратурных плыняў, розных ідэйных пераканняў, розных палітычных поглядаў. Але ўсе яны шукалі свае шляхі да Беларусі. Ужо ў першым рэдакцыйным артыкуле Іван і Антон Луцкевічы абвясцілі: "Не думайце, што мы хочам служыць толькі ці панам ці адным мужыкам. Не, ніколі не! Мы будзем служыць усяму беларускаму скрыўджанаму народу... Ведайце добра, што "Наша Ніва" – газета не рэдакцыі, але ўсіх беларусаў і ўсіх тых, хто ім спагадае".


Наша Нива
ПЕРШАЯ БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЭТА З РЫСУНКАМИ

"Наша Ніва" была не толькі грамадска-палітычным, але і літаратурным выданнем, на старонках якога друкавалася шмат вершаў і апавяданняў. Сёння, з 95-гадовай адлегласці ад тых часоў, можа здацца: друкаваліся беларускія творы – ну і што? Можа здацца: беларуская літаратура існавала заўжды і грунтоўна. Але так не было. Беларускую літаратуру і беларускую свядомасць ствarала "Наша Ніва", даючы магчымасць беларускім пісьменнікам друкавацца. Многія беларусы толькі са старонак "Нашай Нівы" і даведаліся, што яны беларусы.

Магутнасць друкаванага слова цяжка пераацаніць. Таму і змагаўся царскі рэжым, як мог, з народнай беларускай газетай. А рэдакцыі даводзілася змагацца за кожны нумар. На выданне кожнага нумара трэба было шукаць сродкі. Часам нумар канфіскоўваўся – тады даводзілася таемна выносіць з друкарні частку накладу, каб распаўсюдзіць нелегальна. Часам за якую-небудзь публікацыю, што прыйшлася ўладам не даспадобы, рэдактар трапляў за краты.

...Як вядома, народ, які не вывучае сваёй гісторыі, вымушаны яе паўтараць.

**Наталля МЯЦЕЛЬСКАЯ.**

## ПРОГРАММА ТВ ВОСКРЕСЕНЬЕ, 2 ДЕКАБРЯ

**БТ**
7:00, 9.00, 15.00 Новости.
7:10 Сериал «Женщина в белом».
8:05 «Агромир».
8:30 «Арсенал». Программа об армии.
9:10 Мультиклуб.
9:40 Фильм-сказка «Умные вещи».
11:55 «Все нормально, мама!».
12:35 Телевитамин.
13:05 Сериал «Королева мечей».
13:55 Судьба человека. Николай Гисич.
14:20 «Пой, душа!».
14:50 «И другие официальные лица».
15:15 Мир и мы.
15:35 «Анна Каренина».1-я и 2-я серии.
17:55 Криминальное досье.
18:20 «Встреча в Троицком» с Александром Домарацким.
18:45 «Время местное».
19:15 Планета «АРТ».
19:45 Телебарометр. Прогноз погоды.
20:00 Панорама.
20:35 Спорт-курьер.
20:45 Л.Целиковская в комедии М.Жарова «Беспокойное хозяйство».
22:10 Хоккей. Чемпионат ВЕХЛ. «Керамин-Минск» - «Беркут»(Киев). 2-й и 3-й периоды.
23:30 Сериал «Жюли Леско»(Франция).

**ОРТ**
07.00, 09.00, 14.00, 17.00 Новости.
07.10 Служу России!
07.40 «Русалочка».
08.05 Утренняя звезда.
08.50 Библиомания.
09.10 «Непутевые заметки».
09.30 Пока все дома.
10.10 КВН-2001. Второй полуфинал.
12.15 «Ералаш».
12.35 Умницы и умники.
13.00 «Сами с усами».
13.30 «Все о Микки Маусе».
14.10 Фильм «Одинокая женщина желает познакомиться».
15.50 Живая природа.
17.20 «В поисках «Последнего героя».
17.40 Фильм «Крестный отец-2».
21.30 Времена.
22.45 Сериал «X-files».
23.45 Триллер «Фара».

**РТР**
07.25 «Телепузики».
07.50 Русское лото.
08.40 «ТВ Бинго шоу».
09.20 Доброе утро, страна.
10.00 Сам себе режиссер.
10.55 «Городок. Ретро».
11.35 Федерация.
12.10 Парламентский час.
13.00 Вести.
13.20 Диалоги о животных.
14.25 Вокруг света.
15.30 «Том и Джерри».
16.05 «Комиссар Рекс». Сериал.
17.10 ТВ Бинго новости.
17.15 Аншлаг.
18.20 «Городок».
19.00 Вести недели.
19.55 Х/ф. «Гудзонский ястреб».
22.00 Сериал «Твин Пикс».
23.05 Спорт за неделю.
00.05 Прогноз погоды.

**НТВ**
05.10 Боевик «Подземка».
07.00 Сегодня.
07.15 «Улица Сезам».
07.35 Мультфильм «Соломенный бычок».
07.45 Пепси-чарт.
08.25 Ох, уж эти дети!
09.00 Сегодня.
09.20 Комедия «Аферисты».
11.00 Сегодня.
11.20 Фильм «Тарзан: человек-обезьяна».
13.35 Служба спасения.
14.05 Своя игра.
15.00 Сегодня.
15.25 Дог-шоу «Я и моя собака».
16.15 «Женский взгляд».
16.55 Очная ставка.
17.35 Боевик «Смертельное оружие-2».
20.00 Намедни.
21.15 Куклы.
21.30 Детектив «Скала Малхолланд».
23.50 Журнал Лиги чемпионов.

**КУЛЬТУРА**
09.10 Мультфильмы.
10.15 Недлинные истории.
10.30 Ток-шоу «Наобум».
11.00 Тем временем.
11.25 Чудеса погоды.
11.50 «Как я воевала с гестапо». Худ.фильм. Часть 2-я.
13.30, 21.00 Новости культуры.
13.45 Магия кино.
14.10 «Кармен». Фильм-опера.
17.15 «Майские цветы». Сериал.
18.05 Мультфильм.
18.15 Кинопанорама.
18.55 Экология литературы.
19.45 «Собрание исполнений».
20.15 Блеф-клуб.
21.20 Личные воспоминания о большой жизни.
21.25 II Европейский фестиваль современного танца.
22.05 «Мегрэ устраивает западню». Худ.фильм.
22.55 «Сказка сказок». Мультфильм для взрослых.

**ТВ6**
06.15, 13.40, 23.15 Дорожный патруль.
06.25 Фильм «Наш маленький «Лоррейн».
08.00 «Обратный отсчет».
08.55 «Star старт».
09.30 «Все в сад!».
10.00, 14.00 Сейчас.
10.30 «Завтрак с Соловьёвым».
11.10 Гала-концерт, посвященный открытию Чемпионата мира по шахматам 2001-2002гг.
12.45 «Мое кино».
13.30 Телемагазин «Спасибо за покупку!».
14.25 Катастрофы недели.
15.00 «В нашу гавань заходили корабли».
16.05 «Вы - очевидец».
16.50, 19.30 Сериал «Улицы разбитых фонарей II».
18.00 «Итоги».
20.45 «Земля - воздух».
22.20 Сериал «Первая волна III».

**СТВ**
06.00 Музыкальный канал.
07.00 «1/52». Спортивное обозрение.
07.15 «В гостях у Тофика».
07.30 «Автопанорама».
08.00 «Час пик».
09.00 «Симпсоны». Мультсериал.
09.30 «Баффи». Сериал.
10.30 Мелодрама «Любовь и поножовщина».
12.50 «Большой завтрак с Ликой».
13.15 «Киноафиша Минска».
13.20 Музыка на СТВ.
13.30 Трагикомедия «Трын-трава».
15.25 «Кирова, 17».
15.40 «Премьер-парад «Столичный». Юмористическая программа.
16.00 «Человек-паук». Мультсериал.
16.30 «Человек-паук». Мультсериал.
16.50 «Дальнобойщики». Сериал.
18.00 Худ.фильм.
19.30 Информационная программа «168 часов Минска».
20.30 «Автопанорама».
20.55 Комедия «Очень страшное кино».
23.05 «М 1». Музыкальная программа.

**ТВЦ**
06.05 Шире круг.
07.00 «Отчего, почему?».
08.00 Мультфильмы.
08.45 «Полевая почта».
09.15 Лакомый кусочек.
09.30 Русские зимы в Ницце.
10.00 Московская неделя.
10.30 «Клара Лучко». Фильм-портрет.
11.25 «21-й кабинет».
11.55 Чемпионат России по хоккею. Суперлига. «Динамо» - Спартак».
14.20 Погода на неделю.
14.25 «Козленок». Мультфильм.
14.35 Путь к себе.
14.45 «Горько!».
15.15 «Комиссар Наварро». Сериал.
17.05 Ток-шоу «Слушается дело».
17.55 «Последний курьер». Сериал.
19.00 «Момент истины».
19.55 Прогноз погоды.
20.05 Фильм «Вас ожидает гражданка Никанорова».
21.55 События.
22.05 Спортивный экспресс.
22.40 «Деликатесы».
23.10 Золотая фишка.
00.10 Фильм «Потерянная душа».




**рабочы**
*ШТОТЫДНЁВАЯ МАСАВА-ПАЛІТЫЧНАЯ ГАЗЕТА*

Заснавальнік і галоўны рэдактар **Віктар ІВАШКЕВІЧ**

*Пасведчанне аб рэгістрацыі № 1255 ад 27.12.99г. Наклад 15 000.*
*Нумар падпісаны ў друк 20.11.2001 г. у 19.00. Заказ 920*
*Надрукавана ў друкарні ПП "Мэджык" (г.Мінск, вул.Кнорына, 50а)*

Адрас рэдакцыі:
**220030, г.Мінск, пл.Свабоды,23, «РАБОЧЫ»**
**E-mail: kapp@irex.minsk.by**
Тэл. (017)227-04-54
Тэл./факс (017)227-13-16